# РАБОЧЫ Бабруйска

26.10 – 1.11.2000 г. Наклад 299 ас. Паштовы адрас: 213 807, Бабруйск, а/с 94, www.bobruisk.net. Рэдактар Ігар ХОДЗЬКА. №33/34

РЭАЛІІ

## ФАРС ПАД НАЗВАЙ "ВЫБАРЫ"

15 кастрычніка прайшлі "выбары" ў палату № 2. Ужо на наступны дзень было абвешчана, што яны адбыліся ва ўсіх трох акругах горада. Лішне казаць, што ўсе дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі пасьпяшаліся ўзахлёб распавесці аб іх дэмакратычнасці і адкрытасці.

Між тым, тыя людзі, якім ўся палітыка, па вялікаму рахунку, "да лямпачкі", сапраўды маглі прыняць гэту інфармацыю за чыстую манету. Бо ўсё было, як павінна быць. Перадвыбарчая агітацыя? Дык выступаць усім давалі. Галасаванне? Бяры бюлетэнь, крэслі, каго жадаеш. На наступны дзень і БТ, і ГРТ кажуць у адзін голас, што ўсё "о`кей!". Чаму ж нейкая апазіцыя ў адзін голас крычыць, што гэта фарс?

Насамрэч жа "выбары", якія мелі месца, прайшлі з мноствам парушэнняў, што і зафіксавалі шматлікія незалежныя назіральнікі. Здаралася, па надуманым прычынам было адмоўлена ў рэгістрацыі ў якасці кандыдатаў у дэпутаты тым асобам, якія не прадастаўляюць партыю ўлады ды вылучаюцца самастойнасцю мыслення. Калі пачаць з такой ранняй стадыі, газетнага фармата нам відавочна не хопіць. А таму звернем увагу толькі на агітацыю кандыдатаў, галасаванне і падлік галасоў.

Што тычыцца агітацыі. Тут найбольш "адзначыўся" Бабруйскі раён ды рэгіёны. Так, па інфармацыі, якую мы атрымалі ад кіраўніка Клічаўскага прадстаўніцтва Беларускага Хельсінскага камітэту Анатоля Белазерцава, у Асіповіцкай выбарчай акрузе № 74 балатаваліся дзве "важныя" асобы — "палатнік" Сямён Ліфшыц і міністр сельскай гаспадаркі Вадзім Папоў. Першы, невядома за чые грошы, прывёз са сталіцы Аляксандра Ціхановіча ды Ядвігу Паплаўскую, канцэрты якіх праходзілі ў рабочы час. А міністр арганізаваў раз'езд машын па вёсках з 10-15 агітатарамі на барту. Кіраўнікам усіх раённых арганізацый было загадана прывозіць з сабой на сустрэчы па 4-6 чалавек. І рабочы час, і бензін на гэта не шкадавалі.

Па Бабруйскаму раёну (Бабруйская раённая акруга № 65) назіральнікі адзначылі відавочны ціск вертыкальшчыкаў на выканаўчую ўладу, на старшынь калгасаў, якія вымушаны былі актыўна праводзіць "генеральную лінію" — агітаваць па вёсках за "патрэбнага" кандыдата. Так, у вёсцы Слабодка сам старшыня сельскага выканаўчага камітэту па тэлефоне заклікаў людзей прагаласаваць за "палатніка" Бабкова.

Парушэнні былі зафіксаваны і пры галасаванні. Вось толькі некаторыя прыклады.

У акрузе № 64 на ўчастку № 22 (размешчаны ў памяшканні гімназіі № 1) і пасля 18 гадзін (што законам забаронена) працягвалі прымаць заяўкі дзеля галасавання на даму. У 18.30, пасля падліку колькасці прагаласаваўшых, узнялася мітусня, быццам у растрывожаным мурашніку. Бо высветлілася, што на ўчастак завітала ўсяго каля 30 % выбаршчыкаў. Затое за астатнія паўтары гадзіны — о цуд! — прагаласавала больш за 22 %! У акрузе № 65 на ўчастку № 69 (школа № 17) вынасная скрыня выкарыстоўвалася не па запытах выбаршчыкаў. Як вынік, у гэтай скрыні аказалася 60 лішніх бюлетэняў. Па акрузе № 63 на ўчастку № 43 (інтэрнат гарбарнага камбіната) выбарчая скрыня знаходзілася паза полем зроку назіральнікаў, за кабінкамі для галасавання, куды раз-пораз заходзілі і самі члены камісіі.



Цяпер аб падліках. Далёка не ўсім назіральнікам удалося не тое што паназіраць, як галасы падлічваюць, але і ўвогуле пры гэтай працэдуры хаця б папрысутнічаць. Напрыклад, у выбарчай акрузе № 74, якую вышэй мы ўжо ўзгадвалі, 23 назіральнікі, што сумленна папрацавалі ў час датэрміновых "выбараў", 15 кастрычніка да нагляду дапушчаны не былі: "Такіх грамадскіх арганізацый не існуе". Відавочна, што ўлады спалохаліся татальнага кантролю, таму і загадвалі "не пущать". Як след, ужо пасля першага тура перамогу святкаваў В. Папоў. У акрузе № 65 на ўчастку № 53 (школа № 7) пры падліку галасоў аказалася на 100 бюлетэняў больш, чым павінна было быць. У акрузе № 63 амаль на ўсіх участках члены камісій адмаўляліся даваць назіральнікам інфармацыю аб ходзе датэрміновага галасавання. І толькі на другі-трэці дзень вымушаны былі падпарадкавацца патрабаванню закона. Затое міліцыянеры, сачыўшыя за парадкам на ўчастках, без праблем атрымлівалі лічбы папярэдняга галасавання.

Ці варта здзіўляцца таму, што па афіцыйных даных галасаванне ў акрузе № 64 адбылося, а па падліках незалежных назіральнікаў — не? Калісьці, на прэзідэнцкіх выбарах 1994 года, назіральнікі падлічвалі бюлетэні разам з членамі камісій. Зараз жа, літаральна на ўсіх участках непажаданых сведкаў размяшчалі на такой адлегласці ад месца падлікаў, што заўважыць, што там нападлічвалі, не прадстаўлялася ніякай магчымасці. І толькі пасля заканчэння падлікаў назіральнік меў магчымасць азнаёміцца з выніковым пратаколам.

Таму і мела рацыю апазіцыя, якая яшчэ задоўга да "выбараў" заклікала да іх байкоту. І аб ніякай адкрытасці плебісцыту не можа быць і гаворкі. Звычайны фарс пад гучным назовам "выбары".

**Віктар КУЛІКОЎ.**

БУДНІ

## МІХАІЛ ДРАЖЫН ПАЙШОЎ

Старшыня Магілёўскага аблвыканкама Міхаіл Дражын выказаў намер развітацца са сваёй пасадай, у сувязі з чым яго рукой была напісана адпаведная заява ў "верхнюю кропку" вертыкалі. І вось нарэшце А. Лукашэнка падпісаў указ аб яго адстаўцы. Выконваючым абавязкі старшыні Магілёўскага аблвыканкама прызначаны былы першы намеснік Дзмітрый Савіцкі.

## МІХАІЛ БАНДАРЭНКА ЗАСТАЎСЯ

Да самага пачатку другога тысячагоддзя Бабруйск асуджаны існаваць без кіраўніка мясцовай выканаўчай улады. "Крэдыт даверу" на гэты тэрмін "выпісаны" былому намесніку Раманоўскага Міхаілу Бандарэнку, які застаўся выконваць абавязкі старшыні гарвыканкама.

## І НАВОШТА МЫ ГАЛАСАВАЛІ?..

Як стала вядома, што пасля першага тура выбараў, адзін з двух кандыдатаў, прайшлі у другі тур па 63-й выбарчай акрузе, Э. Нарышкін зняў сваю кандыдатуру.

## КРЫНІЦА БЕЛАРУСКАСЦІ

Ці ж можна ў Бабруйску набыць сапраўдныя, "залатафондавыя" беларускамоўныя выданні? Не спяшайцеся адказваць "не". Аказваецца, у кнігарні, што побач з плошчай Леніна, у продажы ёсць творы Рыгора Барадуліна, Ларысы Геніюш, а таксама каляндар на 2001 год з выявай Вітаўта! Добрая навіна для свядомых беларусаў. І, магчыма, добры знак.

АБ`ЯВА

## УСІМ АМАТАРАМ СУЧАСНАЙ МУЗЫКІ

Нарэшце і ў наш горад завіталі сапраўдныя беларускія музыканты – легендарны гурт НРМ. Аматары айчыннага року атрымаюць магчымасць азнаёміцца з новым альбомам "Тры чарапахі", які, дарэчы, музычныя аўтарытэты лічаць лепшым рокавым музычным канцэртам на сённяшні дзень у Еўропе. Адзіны канцэрт адбудзецца ў 19 гадзін 19 лістапада ў памяшканні Дома афіцэраў.

**"РАБОЧЫ БАБРУЙСКА" АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС**

Два білеты на вышэй адзначаны канцэрт атрымае той, хто (у пісьмовай форме) дакладна адкажа на два пытанні нашага конкурсу:

1. Колькі альбомаў, з улікам апошняга, выйшла з пад пяра гурта "НРМ"?
2. Колькі нумароў "Рабочага Бабруйска", з улікам таго, што вы трымаеце ў руках, выйшла ў свет з моманту ўтварэння газеты?

## ДОБРАЯ СПРАВА МАЛАДОГА ФРОНТУ

Аматары роднай мовы і літаратуры, гэтая падзея – для вас. Малады фронт адкрывае сапраўдную бібліятэку беларускамоўных твораў, сярод якіх "Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны", "Да дэмакратыі праз грамадзянскую супольнасць", "Анталогія беларускай эпітафіі", "Роднасць", "Памяць. Бабруйск." і іншыя. Дзеля гэтай добрай справы ў падарунак прымаюцца любыя кнігі на роднай мове.

Звяртацца па тэлефоне 58-33-10.

**Калонку падрыхтаваў А. ЛІТВІНАЎ.**

## ЗАМАЛЁЎКІ БАБРУЙСКАГА НАЗІРАЛЬНІКА

Тое, што дзяржаўныя СМІ называюць выбарамі 15 кастрычніка, засталося ў гісторыі. Пры ўсім нашым жаданні прызнаць ці не прызнаць вынікі таго, што адны называюць фарсам, а другія выбарамі, мы ўсё ж (дзеля будучыні нашага народа) павінны задумацца, да чаго могуць прывесці падзеі, якія мелі месца ў Беларусі два тыдні таму.

Не па свайму жаданню я стаў сведкам размовы двух мужчын сярэдняга ўзросту ў перапоўненым тралейбусе на наступны дзень пасля гэтак званых выбараў.

Першы з неразуменнем адзначыў: "Пра якія выбары ты кажаш, ні я, ні мае знаёмыя ды сваякі на гэтыя выбары не хадзілі, бо няма ніякага сэнсу, усё роўна пераможа той, «хто трэба». Ды ўвогуле бабруйчане былі на рынку, а ўвечары па радыё "Свабода" перадалі, што на выбарчыя ўчасткі прыйшло недзе каля 40 % выбаршчыкаў".

Другі са здзіўленнем адказваў: "Ну ты і загнуў. Мы з жонкай а палове дзевятай прыйшлі на выбарчы ўчастак, паставілі свой подпіс, атрымалі паперку, крыжыкам адзначылі любага нам кандыдата і, самае галоўнае: кінулі сваю паперку ў скрыню. Усё сумленна і ніякага падману. Тым больш, увечары па БТ нейкая жанчына сказала, што на выбарчыя ўчасткі прыйшло крыху больш за 60% выбаршчыкаў".

Чым скончылася спрэчка двух, хутчэй за ўсё, саслужбоўцаў-апанентаў, мне не вядома, бо я быў вымушаны прадзірацца праз тралейбусны натоўп, каб выйсці на патрэбным мне прыпынку. Відавочна адно: гэтак званыя выбары 15 кастрычніка яшчэ больш раскалолі і без таго расколатае беларускае грамадства. Паказальна, што колькасць тых, хто не пайшоў на выбары, і тых, хто атрымаў паперку з імёнамі кандыдатаў, прыкладна аднолькавая. Чым гэта скончыцца — не вядома.

**АБЯРЫ МЯНЕ, БО Я ХАРОШЫ**

Галоўнымі байкатоўшчыкамі выбараў у Бабруйску былі самі кандыдаты ў палату. Больш нецікавых людзей у сваім жыцці я не бачыў. Такое адчуванне, што ўсе кандыдаты — родныя браты і сёстры. Гэта не азначае, што яны мелі паміж сабой братэрскія адносіны, тут якраз зусім наадварот. Іх падабенства ў выхаванні. У сваіх агітках яны аднолькава нахвальвалі сябе. Адзін "умелый организатор и руководитель…", другая "честный, порядочный, справедливый человек…", трэці "прошёл испытание на принципиальность и достоинство…", чацвёрты "верный союзник и защитник…". Адным словам, суперлюдзі, не маючыя нават намёку на нейкія недахопы.

Галоўнай зброяй кандыдатаў былі абяцанкі, пачынаючы ад будаўніцтва мастоў, тралейбусных ліній, дарог, паліклінік, дамоў і г.д., заканчваючы ўмацаваннем правага берага ракі Бярэзіна і паляпшэннем экалагічнай абстаноўкі. Толькі вось не здолелі разумна растлумачыць кандыдаты-фантасты, як яны ўсё гэта зробяць. Ды ніхто ў іх і не пытаў, бо навошта выбаршчыкам усё гэта, калі большасць бабруйчан вядзе кожны дзень сумную барацьбу за існаванне.

Асабліва жахлівымі былі дэбаты, кандыдаты змагаліcь адзін з другім у ўменні разганяць выбаршчыкаў.

Не абыйшлося без наватарства ў філалогіі. Так тэлезорка, юрыст-палатачнік, увёў у расейскую мову артыкль "бля", што выклікала поўнае неразуменне ў рабочых ФанДАКа.

**ВЫБАРЫ БЕЗ ВЫБАРУ**

Найбольш складаная задача стаяла перад выбаршчыкамі — абраць таго, няведаючы каго, і неразумеючы, навошта. Тут без творчага падыходу не абыйшлося. Бацька пяці сыноў-крымінальнікаў у стане алкагольнага атручвання галасаваў за жанчыну, «бо яна жанчына». Кабета, якая ўсё жыццё працавала, а сёння «нікому не патрэбна», жадала аддаць свой голас камуністу, а прагаласавала за прагпаміста, бо "гэта адно і тое ж". Яе сяброўка галасавала за дырэктара хлебакамбіната, бо "ён нас хлебушкам корміць". Нехта заплюшчваў вочы і, як кажуць, на каго Бог пашле. Галасавалі за свайго, за таго, каго бачылі ці чулі, большасць жадала прагаласаваць "як патрэбна" і са спадзяваннем чакала падказкі.

Асабіста я правёў дванаццаць гадзін ў якасці назіральніка на адным з выбарчых участкаў 65-й акругі. Кінулася ў вочы адсутнасць ля скрынь для галасавання моладзі і людзей сярэдняга ўзросту. Старшыня выбарчай камісіі спрабавала растлумачыць гэту акалічнасць тым, што, "на выбары не ідуць спекулянты і злодзеі, бо жадаюць, каб у краіне была анархія", а адзін сябра камісіі сам-насам шчыра прызнаўся, што ў пераважнай большасці праігнаравалі выбары найбольш разумныя і сумленныя выбаршчыкі. Нельга выключаць факт, што выбары байкатавалі тыя, каму, як той казаў, "усё да лямпачкі", але можна ўпэўнена сцвярджаць, што пераважная большасць бабруйчан асэнсавана не прыйшла на выбарчыя ўчасткі, бо не жадала прымаць удзел у выбарах без выбару.

**ЯК ГЭТА РАБІЛІ?**

Марудна працякаючае волевыяўленне жыхароў Бабруйска, напэўна, прывяло ў шок адказных за выбары, яны разлічвалі мінімум на 70 %, а тут… Цяжка зразумець механізмы фальсіфікацыі, тым больш, калі сам ёй ніколі не займаўся. З вонку імпэт старшыні выбарчай камісіі, дзе я быў назіральнікам, нагадваў імпэт раба, які за талерку баланды гатовы на ўсё. Апраўдваючыся тым, што "на правядзенне выбараў ідуць нашы грошы", «з паветра» з'явілася яшчэ сто выбаршчыкаў. На другім участку старшыня выбарчай камісіі, "руплівец за народныя грошы", адкрыта прапанаваў назіральніку і давераным асобам кандыдатаў "кінуць" трыста паперак "супраць ўсіх"; дзякуй Богу, знайшоўся чалавек, які перасцярог іх ад такога крымінальнага злачынства.

**ЭПІЛОГ**

Выбары 15 кастрычніка, пры ўсёй сваёй абсурднасці, выкрылі глыбокі палітычны крызіс, у якім апынулася наша краіна. Улады яшчэ доўга будуць размахваць сваімі 60%, як жанчына лёгкіх паводзін — спраўкай з адмоўным вынікам аналізаў на венерычнае захворванне.

Але ўсё гэта не можа працягвацца бясконца.

**Алесь ЧЫГІР.**

**Свои обращения, отклики, пожелания вы можете прислать нам на адрес: 213809, Бобруйск, а/я 11.**

СПОРТ

# ГАМБІТ ЧУМАЧЭНКІ

Чарговы матч чэмпіяната краіны па футболу бабруйская "Белшына" правяла 19 кастрычніка ў Магілёве. Яе сапернікам быў "Днепр-Трансмаш".

Бабруйчане пачалі ў наступным складзе: Міхайлаў, Шагойка, Свердлаў, Клімовіч, Хрыпач, Ланько, І. Градабоеў, Балашоў, Кашкар, Острыкаў, Э. Градабоеў. "Белымі фігурамі" вырашылі згуляць госці, сярод якіх, дарэчы, на полі знаходзіліся трое былых дняпроўцаў (чацвёрты – Шушкевіч з'явіўся ў другім тайме, а пяты – Балтрушэвіч з-за праблем са здароўем адсутнічаў нават у спісе запасных). Аднак стартавы націск ніякіх значных дывідэндаў ім не прынёс. Без значнага напружання гаспадары ініцыятыву перахапілі. І ўжо адна з першых іх атак ледзь не пераўтвараецца ў галявую. Праход па краю Саладухіна скончыўся дакладным навесам на Чумачэнку, удар якога прымае на сябе штанга. І ў далейшым небяспечныя моманты ўзнікалі пераважна ў бабруйскіх варот. Чаго варты, напрыклад, выхад сам-насам Міхайлава і Булыгі. Але ў гэтай дуэлі наш варатар аказаўся мацнейшым, першым. Пераўёўшы мяч на вуглавы. А на зыходзе першага тайма магіляўчане атрымалі права на штрафны. Як аказалася, гэты момант і стаў ключавым у матчы. Магутны і дакладны ўдар Чумачэнкі, і лік адкрыты – 1:0.

У другім тайме, адназначна лепшы ігрок у складзе абедзьвюх каманд, Чумачэнка, застаўшыся адзін на адзін з Міхайлавым, мог адзначыцца зноў, ды ўдару паўабаронцы крыху не хапіла дакладнасці – мяч прайшоў побач са штангай. Праз некалькі хвілін ля белшынаўскіх варот закруцілі карусель Ражкоў і Лукашоў. Пры гэтым абаронцы гасцей сталі слупамі, назіраючы, чым жа гэта ўсё скончыцца. На шчасце, стрэл Ражкова Міхайлаў з цяжкасцю, але адбіць здолеў.

Стомлены Бабруйск усё часцей грашыў недакладнымі перадачамі ды рухам няспешным, як у запаволеных кадрах. Бліжэй да эндшпілю каманды, змірыўшыся з лікам на табло, тапталіся пераважна ў сярэдзіне поля, чым не на жарт выклікалі нуду ў гледачоў. Фінальны свісток, прагучаўшы над стадыёнам, усе адназначна ўспрынялі як сканчэнне пакут. Эдуарда Малафеева б на іх!.. Дарэчы, Валерый Стральцоў, трэнер "Дняпра", з'яўляецца памочнікам славутага мэтра ў працы з нацыянальнай зборнай.

Да заканчэння чэмпіяната засталося ўсяго тры туры. Ужо вядома, што чэмпіёнам краіны датэрмінова стала мазырская "Славія". Уся інтрыга чэмпіяната цяпер верціцца вакол серабра: за яго вядуць барацьбу сталічнае "Дынама" і барысаўскае БАТЭ, якіх раздзяляе ўсяго тры ачкі, і вакол вызначэння няўдачнікаў, якім прыйдзецца пакінуць лігу.

"Белшына" з 31 ачком зараз знаходзіцца на малапрэстыжным дзявятым месцы. Але, як кажуць, што ўвесну пасееш, тое ўвосень і пажнеш...

**Віктар КАЧАН.**

ГЛАС НАРОДА

# ПРАЗДНОВАТЬ НАДО СЕРДЦЕМ

"День 7 ноября — красный день календаря". Ну кто не помнит эти бессмертные строки из своего краснознаменного детства или юности? Белые рубашки, кумачовые "налепки", резиновые шарики, бумажные цветики, знамена, портреты... (Кому-то когда-то пришло в голову торжественно выносить на палках портреты не только ушедших, но и живых людей.) Массовость, подтвержденная списками пришедших, всенародное ликование по команде из репродуктора. "У нас никто не отнимет завоеваний социализма!..", "Пусть крепнет дружба между республиками великого, нерушимого Советского Союза!..", "Да здравствует коммунистическая партия во главе с ...", "Ура! Ура! Ура!", Но люди не обижались на весь этот дебилизм. Просто хорошо организованный всенародный праздник вместо "нерекомендуемых" религиозных, повод гульнуть – снять напряжение, продемонстрировать знакомым обновки из одежды и, конечно, выпить-закусить.

Для большинства стран бывшего Союза это уже история. Но не для нас. День кровопролития, несбывшихся надежд, самообмана и лицемерия мы продолжаем праздновать на государственном уровне. Все то же самое. Только вместо портретной галереи — один портрет, и лица демонстрантов все больше невеселые...

Именно эта тема легла в основу нашего очередного телефонного опроса бобруйчан. ***"Собираетесь ли вы принять участие в демонстрации 7 ноября, если таковая состоится?"***. Таким был первый вопрос. И второй, дополнительный: ***"В череде праздников какое место по значимости лично для вас занимает День октябрьской революции?"***

Напоминаем нашу методику. Вербальный контакт осуществляется посредством набора случайного телефонного номера (30 удачных попыток). Данный опрос социологическим не является и на репрезентативность не претендует.

Итак, некоторые из записанных нами ответов предлагаем вашему вниманию.

**Виталий Иванович, 42 года:**

*— Собираюсь ли принять участие, так вопрос ставить нельзя. Он должен звучать иначе: "Погонят или не погонят?". И если прикажут, придется подчиниться, потому что потом затравят всякими санкциями. Где работаю — говорить не буду, но так обстоят дела, я думаю, на большинстве предприятий.*

*Да какой это праздник?! После всего, что мы узнали о злодеяниях коммунизма, этот день можно считать черным днем. Для меня самые веселые праздники — это дни рождения детей, жены и мой. И еще Новый год.*

**Александра Николаевна:**

*— После ухода Романовского трудно сказать, будет ли этот "парад граждан". Я по роду своей деятельности обязана не только принимать участие в подобных мероприятиях, но и заниматься организацией. Причем, действовать так, чтобы никто не заметил, как я борюсь с позывами тошноты от всего этого псевдоспектакля.*

*Праздником этот день считала, пожалуй, лишь в годы комсомольской юности. Пока не узнала, что мой дед был расстрелян большевиками за лишнюю корову, имевшуюся в хозяйстве.*

**Николай Петрович, 69 лет:**

*— Это наш праздник, мы всегда его отмечали. Ленина люблю, а Сталин — душегуб... Обязательно выпью 100 грамм... Но на площадь не пойду — сил нет. Буду смотреть по телевизору.*

*Главный праздник — это День Победы. А остальные — все одинаковые.*

**Мария Леонидовна:**

*— Все зависит от начальства: прикажут — пойду. Я очень дорожу своей работой и боюсь ее потерять.*

*В списке праздников, которые я отмечаю, этот вообще не значится. Октябрьский переворот считаю величайшим преступлением, последствия которого приносят страдания до сих пор.*

**Виктор, 40 лет:**

*— Я — верующий человек, и праздник безбожников — не мой праздник. И других призываю не участвовать в этом шабаше идолопоклонства.*

*Знаете, как отличить недуманный праздник от настоящего? По наличию фальши. Если пристально глянуть в глаза демонстрантам и тем, кто стоит на трибуне, все станет ясно. Но лучше не ходить и не глядеть — поверьте на слово. А теперь вспомните, каким светом и теплом наполняется душа на Рождество, на Крещение, на Пасху! Лицом притвориться можно, но сердце не обманешь...*

**Опрашивал народ
А. ЛИТВИНОВ.**

МІНУЛАЕ — СУЧАСНАЕ

# СТАРАЖЫТНЫЯ МУРЫ ПАТРАБУЮЦЬ АХОВЫ

У 1615 годзе пры грашовай дапамозе караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта ІІІ Вазы ў Бабруйску быў пабудаваны драўляны храм з каменнай захрысціяй. Хутчэй за ўсё, з самага пачатку свайго існавання касцёл дабудоўваўся, бо згодна з Інвентарам Бабруйска 1626 года касцёл быў мураваны і насіў імя святых Пятра і Паўла.

На жаль, лёс не быў добразычлівым да Бабруйскага касцёлу. У кастрычніку 1648 года казацкі атрад атамана Паддубскага, пасля захопу горада, заняўся рабаўніцтвам гэтага прыгожага будынка. Пасля казацкай навалы яго прыйшлося аднаўляць, з гэтай справай справіліся выдатна.

У Інвентары 1653 года падрабязна апісана ўнутранае афармленне храма: галоўны алтар быў размаляваны "прыгожымі колерамі, з пазалотай". У ніжнім ярусе знаходзіўся абраз "Троіца", абапал яго – скульптуры Пятра і Паўла; у верхнім – абраз "Унебаўзяцце Маці Божай", скульптуры нябесных патронаў Польшчы і Вялікага княства Літоўскага Станіслава і Казіміра. У вяршыні стаяў картуш з іменем Ісуса, чырвонага колеру з пазалотай. Адметнай асаблівасцю касцёла была нечаканая для XVII стагоддзя наяўнасць шасці паліхромных разных алтароў.

Пасля далучэння Бабруйска ў 1793 годзе да Расійскай імперыі змяняецца знешняе аблічча горада. У 1810 годзе пачалося будаўніцтва Бабруйскай крэпасці, забудова якой, у тым ліку праводзілася на аснове рэканструкцыі існуючых будынкаў, у выніку чаго мураваны касцёл быў перабудаваны ў арсенал (ці цэйхгауз).

Сёння тут знаходзіцца гаўптвахта, дзе адбываюць пакаранне вайскоўцаў. На вялікі жаль, толькі некаторыя архітэктурныя элементы, характэрныя для культавага дойлідства XVII стагоддзя, нагадваюць аб амаль чатырохсотгадовай гісторыі гэтага будынка.

Старыя будынкі не аднойчы давалі людзям прытулак і баранілі іх у гады ліхалеццяў. Сёння рэшткі памяці нашага народа – маўклівыя сведкі мінуўшчыны – патрабуюць ад нас аховы.

**Алесь ЧЫГІР.**

# Бесплатные частные объявления

Куплю куски мягкой свиной кожи темно-серого цвета размером 50 на 25 см, или какую-нибудь старую вещь из такой кожи.
Звонить по тел. 93-8-62 после 21 часа по выходным.

Окажу услуги по уходу за престарелым и/или ребенком на дому в любое время.
Адрес: пр-т Строителей 38-8.

Продам: диван б/у, в хорошем состоянии – 20000 руб. Дверные стекла с узором (зал, кухня): 375x1300 (2 шт) – 6000 руб., 575x1300 (1 шт) – 4000 рублей. Тел. 55-50-32.

Продам пианино немецкого производства. Тел. 2-08-86.

Ищу работу по обшивке вагонкой, настилу полов, установке дверей, устройству крыш, изготовлению лестниц и другим столярно-плотницким работам. Тел. 2-85-14.

Продается новая инвалидная коляска. Тел. 3-50-98.

Новейшие модели т/в, в/м, в/п, муз. центры, в/камеры, ф/аппараты и т.д., бытовая техника, кухонные комбайны, фены, эпиляторы и др., индивидуальный подбор, гарантия, доставка, товар серт., свид., разреш. № 5119 от 10.02.98, выдан адм. Ленинского района.
Тел. 7-55-51, 55-57-31, 58-42-33.

Продам стол декоративный, массив, «ясень», крышка восьмигранная.
Тел. 3-89-98.

Ремонт одежды швейных и трикотажных изделий из эластичных тканей и кожи, бархата и других сложных тканей. Чистка и влажно-теплая обработка (утюжка). Качественно, с гарантией.
Без выходных, с 7:30 до 19:00.
Ул. Гоголя, 34, т. 6-60-06.
Domino. Лиц. Белбытсоюза №5224 от 24.01.2000 до 2005.

Ищу посредника для продажи автомобиля. Оплата в случае успешного предприятия по договоренности. Звонить после 18.00,
по тел: 4-57-88.

Очаровательный кот Лаки (персидской породы, кремовый мрамор) с отличной родословной ищет подружку-кошечку для вязки. Возраст – 1 год и 3 месяца.
Тел. 3-05-11.

Спряду нитки из любой шерсти (пряжи) на взаимовыгодных условиях.
Тел. 2-34-66.





# Купон частного бесплатного объявления

Имя и фамилия (*не для печати*) ____________________

Адрес (телефон) (*не для печати*) ____________________

Текст объявления: ____________________

______________________________________________

______________________________________________

______________________________________________

**Вырезать, заполнить, послать по адресу: 213809, Бобруйск, а/я 11.**